АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

27 ЖНІЎНЯ — 2 ВЕРАСНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 30000 РУБЛЁЎ
№35 (227)

ВАЛОЖЫН

## Маньяк(і) зноў у летніках

ВАЛОЖЫН. У канцы мінулага тыдня злачынца ноччу залез у спальны корпус летніка "Мара" і шпрыцам увёў дзяўчынцы невядомую вадкасць. Гэта ўжо пяты па ліку "удалы" выхад маньяка па Мінскай вобласці. У нумары "РГ" за 6 жніўня мы пісалі пра папярэдніх.

На шчасце, летнікі рэгіёна на гэтым тыдні спынілі сваю дзейнасць.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

## "Румянец" выведзе радыенукліды

ІВЯНЕЦ. Кандытарская фабрыка распачала выпуск новых гатункаў карамелі: "Вішнёвы дэсерт", "Абрыкосавы дэсерт", "Зімовая вішня", "Паўднёвы дэсерт". Для напаўняльніка выкарыстоўваецца натуральнае пюрэ.

Ужо распрацаваная зусім новая група цукерак: неглазураваныя памадныя цукеркі "Журавушка", "Крынічка". А яшчэ – карамель "Румянец" з выкарыстаннем сухога бурачнага парашку, які садзейнічае вывядзенню з арганізма радыенуклідаў.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МАЛАДЗЕЧНА

## «Дзякуй, маэстра»



*За 2 дні маладзечанскі мастак Мікола Аўчыннікаў адкрыў 4 свае выстаўкі.*

ФОТА АНДРЭЯ КАСКІНА.

У сераду ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы адкрылася 90–я па ліку выстаўка мясцовага мастака **Міколы Аўчыннікава**. У чацвер яшчэ тры – у школе мастацтваў, мастацкай школе, музычным вучылішчы.

На прэзентацыі ў бібліятэцы сказалі добра:

– 90 – гэта лічба трыумфу.

Мікола Аўчыннікаў, чалавек сціплы, так не лічыць. У яго яшчэ шмат творчых задумак.

Юбілейную выстаўку адкрывалі каля гадзіны. Шмат было выступаючых, пажаданняў і кветак. Дырэктар гарадской бібліятэчнай сістэмы **Ніна Артышэвіч**:

– Спадзяюся, што сотая твая выстаўка пройдзе ў новым Доме культуры, які яшчэ будуецца.

Выкладчык музычнай школы **Юрый Церабун**:

– Дзякуй, маэстра, за тваю працу. Калі ты і далей будзеш жыць і працаваць сярод дзяцей (Мікола Аўчыннікаў выкладае ў школе мастацтваў – **аўт.**), будуць сілы для творчасці.

Мастачка **Ірына Ханеўская**:

– Калі я завітала да яго ў майстэрню, то адразу прайшоў галаўны боль. Яго творы лечаць.

Больш за 10 год Мікола Аўчыннікаў – сябра Беларускага саюза мастакоў. Яго акварэлі захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, іншых музеях і фондах. А таксама – у прыватных калекцыях Германіі, Ізраіля, Ірландыі, Расіі, Латвіі, Польшчы, ЗША, Чэхіі, Швецыі.

Чытачам нашай газеты мастак пажадаў:

– Які б складаны ні быў час, імкніцеся ўсміхацца. І працуйце. Кожны на сваім месцы.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

МІНСК

## Кожнае пятае прадпрыемства ў Беларусі стратнае

На пачатак ліпеня 20% беларускіх прадпрыемстваў былі стратныя. Гэта на 1,8% больш, чым па выніках першай паловы 1998 года. Сума страт па іх дасягнула 35,6 трыльёна рублёў. Такія звесткі прадаставілі БелаПАН у Міністэрстве статыстыкі і аналізу.

Найбольшая колькасць стратных прадпрыемстваў у сувязі (56% ад агульнай колькасці супраць 2,7% у студзені-чэрвені 1998 года), сельскай гаспадарцы (39,5% супраць 19,8) і невытворчых відах бытавога абслугоўвання насельніцтва (31,3 супраць 37,4).

Па рэгіёнах колькасць стратных прадпрыемстваў вагаецца ў межах ад 10,6% у Мінску і 14,5% у Брэсцкай вобласці да 29% у Віцебскай і 31% у Магілёўскай абласцях.

*Сяргей СНЕГІН, БелаПАН.*

СІТУАЦЫЯ

# Гульні ў самалёцікі

## Штурмавік Су–25 ледзь не знес дахі вілейскіх дамоў

*"РГ" паведамляла ўжо, што 11 жніўня ў 16–30 віляйчан напалохаў ваенны самалёт. Ён ляцеў, ледзь не закранаючы дахі пяціпавярховак. Сведкам палёту стаў былы авіятар, маёр у адстаўцы Аляксандр КЛЯШНЯК:*

– Я адразу пазнаў ваенны штурмавік Су–25. Гэтыя самалёты ваявалі ў Афганістане. Прызначэнне іх – паражэнне наземных цэляў, хуткасць – 950 кіламетраў у гадзіну, шэсць месцаў падвескі для бомбаў. Хутчэй за ўсё, Су–25 прыляцеў з Ліды, менавіта там яны дыслакуюцца. "З зямлі" немагчыма сказаць, чаму самалёт (магчыма, з боекамплектам) на малой вышыні апынуўся над горадам. Можа, няспраўнасці нейкія былі, а можа, гэта недарэчны жарт лётчыка. Хутчэй за ўсё, была няспраўнасць, бо адхіленне ад маршруту строга караецца.

Палет Су–25 яшчэ звязваюць з вучэннямі. За тыдзень да таго салдатаў бачылі ў лясах ля Забродззя, Шылавічаў. Аднак, як сцвярджаюць вайскоўцы, вучэнні скончыліся яшчэ 6 жніўня.

Мы патэлефанавалі да лётчыкаў у Ліду. З нашых домыслаў яны пасмяяліся. Справа ў тым, што, сапраўды, праходзілі вайсковыя вучэнні.

– І Вілейка была ў зоне палётаў,– гаворыць маёр **Дарошка**.– Су–25 удзельнічаў у "подыгрышы" – лётчыкі трэніравалі вайскоўцаў супрацьпаветранай абароны. Таму самалёт і ляцеў над дахамі 5–павярховак.

Што ж паказалі стратэгам ад авіяцыі і СПА "падзеі над Вілейкай"? Гараджанам зразумела, што яны пэўны час былі заложнікамі ваенных.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*
*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



ФОТАКАЛАЖ ВАЛЯНЦІНА ГЕРНОВІЧА.

БАЦЬКОЎСКІ КОШЫК

## Бацькі, да школы грошыкі збірайце

*Праз дзён колькі дзеці ў чарговы раз рушаць па школах. Самая вялікая непрыемнасць для іх — хаджэнне на ўрокі з ярка выражаным нежаданнем вучыцца. Значна больш складана бацькам. Хаця б таму, што рыхтавацца да школы многія пачынаюць за некалькі месяцаў да 1 верасня. Грошы, што павінны выдаткаваць бацькі, можаце падлічыць самі, у залежнасці ад «апетытаў» той ці іншай сям"і. А «РГ» яшчэ вернецца да тэмы «школьнага падатку» на бацькоў.*



| | |
|---|---|
| Ручка | 22–168 тыс. руб. |
| Стрыжань | 14–20 тыс. руб. |
| Аловак просты | 21–26 тыс. руб. |
| Набор кал. алоўкаў | 332 тыс. руб. |
| Тачылка | 48 тыс. руб. |
| Гумка | 40–79 тыс. руб. |
| Дзённік | 155 тыс. руб. |
| Вокладка для дзённіка | 60 тыс. руб. |
| Пенал | 96 тыс. руб. |
| Сшытак (12 лістоў) | 26 тыс. руб. |
| Папка для сшыткаў | 1242 тыс. руб. |
| Папка для чарчэння | 199 тыс. руб. |
| Сшытак для нотаў | 18 тыс. руб. |
| Лінейка | 30 тыс. руб. |
| Фарбы | 273 тыс. руб. |
| Пэндзаль | 36–155 тыс. руб. |
| Фламастары | 125–373 тыс. руб. |
| Альбом для малявання | 302 тыс. руб. |
| Пластылін | 208 тыс. руб. |
| Клей ПВА | 78–101 тыс. руб. |
| Клей у алоўку | 269–633 тыс. руб. |
| Цыркуль | 152 тыс. руб. |
| Лічыльная палачкі | 61 тыс. руб. |
| Веер галосных гукаў | 40 тыс. руб. |
| Веер зычных гукаў | 87 тыс. руб. |
| Азбука | 850 тыс. руб. |
| Ранец | 2573 тыс. руб. |

*Падрыхтавала Юлія ВАНСЛАЎ.*

## Дзіцячы рынак

МАЛАДЗЕЧНА. У апошнія дні ля калгаснага рынку (скрыжаванне вуліц Л. Талстога і Б. Хмяльніцкага) – натоўп дзятвы. Актыўна ідзе абмен наклейкамі.

Яны прадаюцца тут жа, у камерцыйным кіёску. 6 наклеек каштуюць ад 15 да 40 тысяч. Школьнікі збіраюць цэлыя серыі: "Зорныя войны", "Барбі", вядомыя замежныя мульцяшкі.

*Аддзел інфармацыі.*

*ЖЫЦЦЁ НАШАЕ*

# Маршалкі: месяц без вады

*ВАЛОЖЫН. Вёска Маршалкі знаходзіцца ў кіламетрах 10 ад горада. Так гістарычна склалася, што стаіць яна на ўзвышшы, і да вады не дакапацца. Таму абслугоўваюць вяскоўцаў калонкі: вада запампоўваецца са свідравіны. Сёлетні жнівень старажылы параўноўваюць з днямі ваеннага ліхалецця, калі глыток вады літаральна каштаваў жыцця. Выкапаныя сажалкі тады надзейна ахоўваліся.*

Каля месяца вяскоўцы жывуць без вады. Сапсавалася помпа. Рамонт каштуе мільёнаў 40. Вясной сяльчане ўжо "скідваліся" па 500 тысяч. І цяпер гатовыя ахвяраваць сваімі пенсіямі, бо "сплакаліся ўсе". У вёсцы больш за 60 двароў, шмат людзей нямоглых, якія і з ложка самастойна не ўстануць.

Вада тут стала валютай. Быў выпадак, калі за яе плацілі гарэлкай. Больш–менш фізічна здаровыя ходзяць за 3 кіламетры да суседзяў у Сугвазды. Іншыя чакаюць "малакавоз", які прывозіць ваду на цялятнік і просяць у вадзіцеля вядро–другое. Ну, а хто і кубкам чэрпае муць зарослай сажалкі. Для вяскоўцаў выратаванне – дождж. Некалі ён ішоў ноччу на выхадныя – у дварах кіпела работа, людзі збіралі кроплі ў начоўкі.

У санітарнай станцыі пацвердзілі, што "у плане санітарыі нішто (ніхто) без вады жыць не можа". Вёска Маршалкі па захворваемасці ў спісах не значыцца. А наогул, сітуацыя па якасці вады ў раёне не горшая, чым у іншых раёнах. Зразумела, калі яна ёсць. Што тычыцца адсутнасці вады ў Маршалках, пісьмовых заяў у санстанцыю не паступала.

Быў намер у "продвинутых" мамаш з горада назбіраць подпісаў і прыдаць справе агульнарэспубліканскае гучанне. Аднак старыя не хочуць канфліктаваць з адміністрацыяй калгаса і сельсаветам. Сена, салома, брыкет ставяць іх у залежнасць. Дзятвы на вясковай вуліцы амаль што і не відаць. Гарадскіх пазабіралі: здароўе даражэй.

Жыхары Маршалак з павагай гавораць пра свайго старшыню калгаса "17 верасня" Рэгіну Пальчэўскую. Яна, ў адрозненне ад бюджэтных сельвыканкомаў, можа выдаткаваць пэўную суму. Сяльчане разумеюць, што калгасныя грошы цяпер ідуць на ўборку. А за сельгаспрадукцыю дзяржава пакуль не разлічылася. Таму жыхары Маршалак чакаюць. Чакаюць і плачуць.

Вада такім чынам знікае ў Маршалках гады з тры, і ўлады мясцовыя пра гэта ведаюць.

***Віталь КРУПЯНЬКОЎ.***

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 18.08 | 25.08 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 550 | **580** |
| Кілбаса салямі | 1 кг | – | **913** |
| Сасіскі | 1 кг | 780 | **780** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 320 | **390** |
| Рыс | 1 кг | 280 | **300** |
| Цукар | 1 кг | 155 | **176** |
| Грэчка | 1 кг | – | – |
| Алей | 1 л | 450 | **480** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 179 | **179** |
| Маянэз | 250 г | 80 | **80** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 550 | **550** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 180 | **180** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 160 | **160** |
| Лімоны | 1кг | 500 | **500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 0,5 л | – | **90** |
| Масла | 1 кг | – | **600** |
| Тварог | 1 кг | – | **200** |
| Малако | 1,5 л | – | **80** |
| Бульба маладая | 1 кг | 50 | **50** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 190 | **200** |

яблыкі ........ 1 кг ........ 50–80
кавун ........ 1кг ........ 80
капуста ........ 1 кг ........ 40
агуркі ........ 1 кг ........ 80
памідоры ........ 1 кг ........ 140
алыча ........ мал. вядро .... 300
сліва ........ вял. вядро ..... 900

*ШКОЛА*

# «Віншуйце настаўнікаў смела...»

*Напярэдадні 1 верасня карэспандэнт "РГ" сустрэўся з загадчыкам аддзела адукацыі Маладзечанскага гарвыканкома Уладзімірам ЛЯГОВІЧАМ.*

**– Нават не ведаю, ці прынята настаўнікаў, работнікаў аддзела адукацыі віншаваць з пачаткам новага навучальнага года? Ён заўсёды нясе новыя праблемы.**

– Да праблемаў мы звыклыя. А кожны навучальны год – гэта новыя ўражанні першачкоў, новыя метадычныя распрацоўкі, новыя імёны настаўнікаў... Ды і наогул, ужываецца такі выраз: "школьная сям'я". Ці не радасна дзецям зноў вярнуцца да сваіх бацькоў–настаўнікаў? Ведаю, што і дарослыя чакаюць спаткання. Таму віншуйце настаўнікаў смела.

**– Умела расставіць кадры даволі цяжка. Якая сітуацыя на рынку працы настаўнікаў?**

– Сёння нам патрэбныя настаўнік тэхпрацы, чатыры настаўнікі фізічнай культуры, тры дэфектолагі, два настаўнікі англійскай мовы. Пытанні працаўладкавання заўсёды закрывалі да 1 верасня. Сёлета сітуацыя пагоршылася. Больш стала, прабачце, "дзірак". У нас новы дырэктар беларускай гімназіі – **Аляксандр Бурдыка**. Дасведчаны спецыяліст, чалавек слова. Скажу шчыра, мы разглядалі некалькі кандыдатаў на гэтую пасаду, і некаторыя ад пасады адразу адмаўляліся.

**– Разумею, што дырэктарам навучальных установаў не пазайздросціш. Акрамя навучальнага працэсу, трэба вырашаць шматлікія гаспадарчыя пытанні.**

– Нашыя дырэктары гэта робяць добра і ў тэрмін. Днямі камісія ў складзе работнікаў аддзела адукацыі, цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, пажарных, старшыні гарадскога камітэта прафсаюза работнікаў адукацыі наведала 37 падведамасных установаў. Амаль усе школы, садкі гатовыя прыняць дзяцей. Яшчэ ідзе рамонт у будынку СШ №1. А СШ №6 добраўпарадкоўвае сваю тэрыторыю. Наогул, капітальных рамонтаў не было. Прыемна, што ля школ стала больш кветнікаў. Трэба зыходзіць з таго, што школа – культурная ўстанова. І культура павінна быць не толькі ўнутры будынка. Як адмоўную рысу адзначу нездавальняючы стан спартыўнай пляцоўкі СШ №4, неабходна дапрацоўваць іх у СШ №№2, 7, 8, 9, 11, 12, беларускай гімназіі, САШМ.

**– Бюджэтных грошай заўсёды не хапае. Ведаю, колькі іх ні выдаткоўвай, заўсёды мала. І будынкі старыя латаць трэба, і мэблю ў іх мяняць, умацоўваць матэрыяльна–тэхнічную базу школ. Простае пытанне: дзе браць на ўсё гэта грошы?**

– Акрамя бюджэтных грошай, маем дапамогу фундатараў і базавых прадпрыемстваў. Шырока практыкуем заключэнне дагавораў паміж дырэктарамі школ і адміністрацыяй базавых прадпрыемстваў. На такую форму работы дазвол даў гарвыканком. Сваім школам шмат чым дапамаглі (і дапамагаюць) "Маладзечанскія электрасеткі", "Барыт", "Маладзечнамэбля", "Электрамодуль", завод парашковай металургіі.

**– Якія сёлета навіны ў навучальным працэсе?**

– Усе шасцігодкі пойдуць у падрыхтоўчыя класы. Гэта звязана з 12–гадовым навучаннем. Мяркую, што з бацькамі нейкіх сур'ёзных пытанняў не ўзнікне. Так, прыходзяць яны да нас раіцца: дзіця фізічна слабае, што рабіць? У нас да кожнага дзіцяці ў садках, школах падыходзяць індывідуальна. Іх пераконваюць. Сёлета не будзе набору, як летась, у ліцэйскі эканамічны клас СШ №7. Там жа, у сёмай школе, зноў сфарміраваны ліцэйскі клас хіміка–біялагічнага ўхілу. "Дзякуй" дырэктару школы **Вользе Малярэвіч**. Менавіта яна сама ўстанавіла сувязь з вышэйшымі навучальнымі ўстановамі Мінска.

**– Усіх матуль хвалюе, як дзіця будзе харчавацца ў школе.**

– Дзяржаўная датацыя засталася тая ж – 40 тысяч рублёў на школьніка ў дзень. У дзіцячых садках, школе мастацтваў, СШ №12 свае сталоўкі, астатнія школы абслугоўвае камбінат школьнага харчавання. Работа камбіната нас не задавальняе, асабліва па якасці прадуктаў. На гэтым тыдні мы з калгасаў пачалі вывозіць агародніну. Дагавор з гаспадарамі раёна заключылі на 5 мільярдаў. Маем намер сваёй агароднінай забяспечыць дзіцячыя садкі да студзеня. Параўнанне: той жа школьны камбінат, да прыкладу, не мае свайго сховішча для агародніны.

**– Школьную форму купляць абавязкова?**

– Школьнай формы адзінага ўзору не існуе.

**– Колькі трэба бацькам выкласці за падручнікі?**

– За карыстанне падручнікамі – 25% іх кошту. Ад 558 тысяч рублёў да 1288 тысяч. Падручнікі выдадуць у тым выпадку, калі вы здалі ў бібліятэку леташнія (калі вы іх там бралі). Заплаціць трэба да 1 кастрычніка. Ёсць катэгорыі людзей, якія поўнасцю вызваляюцца ад платы і якія заплацяць толькі палову ад патрэбнай сумы.

**– У параўнанні з іншымі гарадамі, што ў нас добра і што дрэнна? Назавіце хаця б адзін прыклад.**

– Дрэнна тое, што ў школах усяго 4 сучасныя кабінеты інфарматыкі. Маю на ўвазе сучасныя камп'ютэры, абсталяванне. Шмат што добра. Напрыклад, не ў кожным горадзе, раёне ёсць спецыяліст па дзіцячым харчаванні. І ўжо распрацаваныя новыя палажэнні па арганізацыі харчавання школьнікаў. Але гэта на перспектыву.

***Віталь КРУПЯНЬКОЎ.***

18 жніўня пайшоў з жыцця Мікалай Міхайлавіч Дзялендзік. 17 год ён узначальваў у Маладзечне прадпрыемства электрасетак. Вясной 1990 года пераведзены ў Мінск на пасаду намесніка кіраўніка раённага энергетычнага ўпраўлення "Мінскэнерга".

Сам ён з вёскі Вяжэвічы Салігорскага раёна. Скончыў Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі. Тыя, хто працаваў з ім на ПЭС, здзіўляюцца:

– Наконт якіх яго хобі вы пытаецеся? Не было ніякіх. Ён жа быў дырэктарам!

На МЭС ствараецца музей – на гэтым тыдні адзначаецца 50–годдзе прадпрыемства. Сярод запрошаных быў бы Мікалай Міхайлавіч. І не адзін. Дзялендзікі – гэта цэлая дынастыя: удава Мікалая Міхайлавіча, Валянціна Уладзіміраўна, працуе ў сталіцы ў Энерганаглядзе, дачка Таццяна і сын Андрэй у Маладзечне на "Электрасетках". Яшчэ ў яго – сын Сяргей і трое ўнукаў.

Работнікі ўспамінаюць, што іх дырэктар умеў кіраваць, хаця заўсёды раіўся са спецыялістамі і прафсаюзам. Кулаком па стале не грукаў, аднак яго слова – закон. І да сябе ён быў патрабавальны. Калі што паабяцае, абавязкова выканае.

– Мікалай Міхайлавіч быў шчыры, прыстойны, сціплы, – гавораць пра яго калегі і сябры.

# Гімназічныя кадры

СМАРГОНЬ. Першую і адзіную ў горадзе гімназію, створаную мінулым навучальным годам, з 19 жніўня ўзначаліў былы дырэктар Мілэйкаўскай базавай школы, трыццаціпяцігадовы **Уладзімір Прыхач**, матэматык па адукацыі і краязнаўца па захапленні.

Штогод 90% і больш яе выпускнікоў становяцца студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў і тэхнікумаў краіны. Такі вынік работы педагагічнага калектыву, які налічвае 104 настаўнікі.

***Павел МАКЛЮК.***

# Выкладчыкі ідуць у міліцыю

ВАЛОЖЫН. Нягледзячы на тое, што сёлета ў школы горада і раёна прыйшло 46 маладых настаўнікаў (амаль удвая больш, чым летась), па–ранейшым адчуваецца недахоп настаўнікаў фізічнай культуры.

Дыпламаваныя спецыялісты–хлопцы імкнуцца працаўладкавацца ў міліцыю. Акрамя фізрукоў, не хапае і матэматыкаў.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

*ЗНАХОДКІ*

# Артылерыйскі снарад «вырас» на гародзе Марыі Субач

МЯДЗЕЛ. Пенсіянерка вёскі Скары **Марыя Субач** ля хаты на гародзе знайшла нямецкі артснарад. Калібр 105 міліметраў па сваёй ўбойнасці лічыцца сярэднім. Але, калі б што, ад хаты засталіся б трэскі.

Тэлефанавала жанчына ў горад з адзінага вясковага тэлефона, які знаходзіцца ў магазіне. Супрацоўнікі міліцыі, ваенкамата хутка былі на месцы. Паколькі снарад ляжаў на асабістым агародзе за плотам, не было сэнсу пакідаць ля яго вартаўніка. Знаходку закрылі скрыняй і жанчыне параілі нікому пра тое не гаварыць. Галоўнае, каб дзятва не даведалася. Праз тыдзень прыехалі сапёры. Снарад вывезлі далёка за вёску і ўзарвалі ў кар'еры. А гарод Марыі Субач (таксама плошчу ў радыусе 200 метраў) "празванілі" на наяўнасць металічных агуркоў.

З мая ў раёне 5 разоў знаходзілі старыя, але "ў рабочым стане" снарады і гранаты. Калібр самага магутнага артснарада быў 500 мм.

***Віталь КРУПЯНЬКОЎ.***

*ПРАМЫСЛОВАСЦЬ*

# ЗАС займае сваю нішу

СМАРГОНЬ. Да выпуску вузлоў і агрэгатаў абсталявання для прамыўкі нафтасвідравін прыступіў завод аптычнага станкабудавання. Асвойваюцца яны па заказе расійскіх нафтаздабытчыкаў.

Такім чынам, пакрысе прадпрыемства займае сваю нішу ў рынкавых адносінах. У яго цэхі вяртаюцца высокакваліфікаваныя станочнікі з іншых прадпрыемстваў горада, куды яны пераходзілі падчас крызісу завода аптычнага станкабудавання.

# Падрастае манапаліст

СМАРГОНЬ. Крызіс крышку "падкасіў" вытворчасць цэглы і сілікатных блокаў на арэндным прадпрыемстве "Смаргоньсілікатабетон".

Аднак жа будаўніцтва і добраўпарадкаванне ў гарадах ды мястэчках не спыняецца. Таму дырэкцыя арганізавала на вытворчых плошчах выпуск якаснай тратуарнай пліткі, якую ўжо можна ўбачыць у цэнтры Смаргоні, а таксама бардзюрных камянёў. Новая прадукцыя раскупляецца адразу ж.

Мяркуецца, што прадпрыемства будзе самае буйное па выпуску гэтай прадукцыі ў рэспубліцы.

***Павел МАКЛЮК.***

*КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА*

# У Лондан фальшыўка пайшла са Смаргоні

СМАРГОНЬ. На працягу амаль тыдня доўжыцца тут судовы працэс, што вядзе выязная калегія Гродзенскага абласнога суда. На лаўцы падсудных – шэсць юнакоў, якія два гады таму пазбавілі жыцця свайго равесніка.

Работа аддзялення крымінальнага вышуку дазволіла высветліць усе акалічнасці гэтага жудаснага здарэння і знайсці закапаны на паўтараметровую глыбіню ў лясным масіве паблізу ад гарадской звалкі труп хлопца.

Калі летась на Смаргоншчыне было зафіксавана толькі 2 забойствы, то сёлета іх колькасць вырасла да пяці. Намеснік пракурора **Мікалай Кіндра** асноўную іх прычыну вызначае як высвятленне на глебе п'янства стасункаў паміж родным ці блізкімі

Падрастаюць паказчыкі фальшываманецтва, наркаманіі. За выраб, захоўванне і ўжыванне наркотыкаў летась было ўзбуджана 20 крымінальных спраў, а ўжо сёлета за паўгоддзе – 19. 14 крымінальных спраў узбуджана па фактах падробак і распаўсюджвання гэтых падробленых долараў, расійскіх і беларускіх рублёў.

Неверагодна, але стодоларавую фальшыўку знайшлі ажно ў адным з банкаў Лондана. Праведзенае расследаванне паказала, што купюра была прынятая адным з абменнікаў Смаргоні.

***Павел МАКЛЮК.***

# Жыў на свеце мастак



Упершыню пра Пётру Міралновіча я даведаўся з надзвычай цікавага "англійскага дзённіка" Адама Мальдзіса, які пад назвай "За Ла-Маншам сярод беларусаў" друкаваўся ў газеце "Голас Радзімы" на працягу студзеня-лютага 1984 года. Там ёсць такі дыялог, які адбыўся паміж Мальдзісам і дырэктарам Лонданскай беларускай бібліятэкі і музея імя Ф. Скарыны айцом Алесем Надсонам.

" – Бачу, маеце таксама крыху карцін і гравюр. Чые яны? Дарэчы, чый гэта партрэт Скарыны ўнізе?

– Пётры Мірановіча. Ёсць такі стары беларускі мастак, аўтар наддзвінскіх пейзажаў. Цяпер жыве ў Нью-Йорку..."

І ўсё. Безумоўна, такіх звестак недастаткова, каб мець нейкае, хоць элементарнае, уяўленне пра асобу, пра мастака. Але яны разбудзілі жаданне больш даведацца пра гэтага загадкавага творцу наддзвінскіх краявідаў. Праўда, не дапамаглі аўтару гэтых радкоў ні даведнікі, ні энцыклапедыі. Ні ў адным з гэтых выданняў нават не згадвалася імя гэтага чалавека. І толькі аднойчы ў "Лясной хатцы", у добрай і прыветнай яе гаспадыні Зоські Верас у сярэдзіне 80-х гадоў удалося ўбачыць набор паштовак з рэпрадукцыямі прац Язэпа Драздовіча, Пётры Сергіевіча і... Пётры Мірановіча. Паштоўкі былі выдадзены ў Вільні ў канцы 30-х гадоў. Ужо з першых хвілін знаёмства стала зразумела, які цікавы і арыгінальны мастак гэты творца з прыгожым беларускім прозвішчам Міpановіч.

І вось зараз, праз столькі гадоў пасля сустрэчы, калі даўно няма зычлівай і спагадлівай Зоські Верас, калі не стала мілай майму сэрцу "Лясной хаткі", мне хочацца расказаць пра чалавека, творчасць якога я люблю, а любоўю трэба дзяліцца з іншымі людзьмі так, як гэта рабіў Пётр Мірановіч лепшымі сваімі карцінамі.

Нарадзіўся мастак 21 верасня 1902 года ў сям'і беларускага селяніна Тамаша Мірановіча ў вёсцы Стрымкі Прыдруйскай воласці былога Дрысенскага павета Віцебскай губерні. Акрамя Пётры ў бацькоў былі яшчэ два сыны, а гаспадарка невялікая – дзяліць няма чаго. Таму і вырашылі бацькі, каб двое сыноў пайшлі вучыцца.

Так сталася, што гэта частка Беларусі пасля гвалтоўнага падзелу 1921 года апынулася ў складзе Латвійскай дзяржавы. У першыя гады свайго праўлення латышскі ўрад прытрымліваўся прынцыпаў дэмакратычнага ладу, і гэта дало магчымасць беларускай меншасці атрымаць усе правы на культурнае і эканамічнае развіццё. У той час на тэрыторыі Латвіі пражывала звыш за 75 тысяч беларусаў. Пачалі адчыняцца беларускія школы, гімназіі, кааператывы, быў створаны беларускі перыядычны друк. Вялікую дапамогу ў наладжванні нармальнага беларускага жыцця ва ўмовах Латвійскай дзяржавы аказваў міністр асветы латышскі паэт Ян Райніс. Адбывалася паступовае адраджэнне дрэмлючых сілаў беларускага народа. Абуджалася Беларусь.

У такі не вельмі спакойны, але спадзейны час і пайшоў у шырокі свет жыцця хлопец з невялічкай беларускай вёскі Стрымкі, што на Дзвіншчыне. У 1922 годзе ён паступіў вучыцца ў Дзвінскую беларускую дзяржаўную гімназію. Гімназія мела высокі адукацыйны ўзровень і, дзякуючы добра падабранаму выкладчыцкаму калектыву, выхоўвала ў сваіх вучняў глыбокі патрыятызм і любасць да сваёй шматпакутнай Беларусі. Чатыры гады вучобы ў гімназіі абудзілі ў Мірановіча ягоныя прыродныя мастацкія здольнасці. На яго, як на выдатнага афарміцеля дэкарацыяў да спектакляў драматычнага гуртка, звярнула ўвагу дырэкцыя гэтай навучальнай установы. Менавіта ў сценах гімназіі Мірановіч спрабуе свае сілы на ніве беларускага выяўленчага мастацтва. Як сын вёскі, ён шмат увагі аддае маляванню з натуры беларускіх краявідаў. Гэтае юнацкае захапленне і вызначыла ў будучым галоўную тэму ягоных работ. Ён стаў мастаком беларускага краявіду і вобразаў сялянскага жыцця.

Беларускае грамадзянства ў Латвіі ўзяло Мірановіча пад сваю апеку, дапамагала яму маральна і матэрыяльна. У 1926 годзе Мірановіч скончыў гімназію і адразу паступіў у Латвійскую акадэмію мастацтва. Ягонымі настаўнікамі ў акадэміі былі выдатныя латышскія мастакі – акадэмік Куга і прафесар Эліясь. У гэты час многія мастакі знаходзіліся пад уплывам модных тады "ізмаў". Мірановіча гэта мала хвалявала. Ён згадваў: "Маляваў я тады пераважна партрэты і пейзажы ў рэалістычным стылі, зрэдку толькі рабіў нейкія "ухілы ў бок мадэрнізму". Гэтым сваім прынцыпам не здрадзіў да канца свайго жыцця. Калі глядзець на работы мастака, то можна сказаць, што стыль Мірановіча рэалістычны, з вялікім уплывам імпрэсіяністычнай манеры. Вось як пісаў выдатны даследчык беларускага мастацтва Уладзімір Сядура: "Не адмаўляючыся ад галоўнага прынцыпу рэалістычнай плыні ў мастацтве – праўдзівасці і паўніні адлюстраванага жыцця, ён надаў сваім абразом яшчэ больш фарбнасці тым, што выкарыстаў імпрэсіяністычны прынцып чысціні фарбы. Ад гэтага ягоныя абразы асабліва свежыя і зыркія".

У такіх работах як "Навальніца ў сенакос", "Жніво", "Над Дзвіной", "Сяўба", "Зіма на Беларусі" мастак любуецца сваёй Бацькаўшчынай, яе незвычайнай прыродай і людзьмі. Асабліва ўдалай па кампазіцыі і па малюнку з'яўляецца карціна "Навальніца ў сенакос". Па небе плывуць грозныя і груваcткія хмары. Вось-вось ліне дождж. Сям'я стараецца з усіх сілаў сабраць сена. Постаць дзеда на возе, які прымае сена, стварае ў душы трывогу і адчай. І ўвогуле, нейкі неспакой назіраецца ў кожнай фігуры на полі. Так можа напісаць толькі той, хто сам неаднойчы перажываў такі момант у сваім жыцці. Сама тэматыка яго твораў была зусім непадобная на тую, што панавала ў акадэміі і ў мастакоўскім асяроддзі тагачаснай Латвіі.

У 1937 годзе Пётр Мірановіч паспяхова закончыў Рыжскую акадэмію мастацтваў са званнем вольнага мастака. Дыпломнымі работамі былі дзве карціны -– "Жніво" і "Снеданне ў беларускай хаце". Асабліва высокую ацэнку атрымала апошняя работа. Хоць, на жаль, лёс гэтай працы невядомы, бо ўсе тагачасныя карціны мастака засталіся ў савецкай Латвіі. Адносна сваёй дыпломнай работы мастак гаварыў так: "Маёй марай ёсць, каб яна знаходзілася ў беларускім музеі".

"Снеданне ў беларускай хаце" – гэта сапраўдны шэдэўр тагачаснага беларускага мастацтва. Звычайная сялянская хата. На пярэднім плане, злева, сядзіць старая жанчына, якая абірае бульбу. Каля стала яшчэ адна кабета са збанком у руцэ. Каля самага покуця хлопчык, які нешта есць, а каля вакна, на лаве, гаспадар. Звесіў галаву, аб нечым думае. У кожнай дэталі, у кожнам штрыху пэндзля мастака адчуваецца беларускі лад жыцця, беларускі дух. Мусіць, не дарма мастак гаварыў: "Для мяне беларуская вёска выразна адрозніваецца ад латышскай ці расейскай. Я бачу ў ёй характэрную гармонію колераў, якая яднала ў адно свет натуры і свет чалавека. Гэта было для мяне найбольш захапляючае адкрыццё, і я стараўся неяк выказаць яго ў сваім малярстве". Водгукі ў прэсе, словы прафесараў і гледачоў былі агульныя ў тым, што мастак знаходзіцца на правільным шляху. За работу "Снеданне ў беларускай хаце" мастак атрымаў залаты медаль Латвійскай акадэміі мастацтваў.

Пасля заканчэння акадэміі ён быў настаўнікам беларускай школы ў Рызе. Прымаў актыўны ўдзел у розных беларускіх асветніцкіх арганізацыях, якія існавалі ў той час у Латвіі, а ў гады другой сусветнай вайны працаваў у адукацыйным аддзеле інспектрам беларускіх школ. Быў у вельмі добрых сяброўскіх дачыненнях з многімі беларускімі дзеячамі, якія жылі ў Рызе. Асабліва цёплыя сяброўскія стасункі склаліся ў яго з паэтам Алесем Салаўём, які дапамагаў друкарам выпускаць беларускі двухтыднёвы ілюстраваны часопіс "Новы шлях". Мірановіч намаляваў партрэт Салаўя, а Алесь напісаў верш, прысвечаны творцу. Верш называўся "Мастак". Ён пачынаўся такімі радкамі:

За працай мастака я заспяю,  
ён з пэндзалем у руцэ мяне страчае.  
Вось і пейзаж, пачаты кагадзе, -  
крыніца радасці, душы вымога...

Гавораць, калі грымяць гарматы – музы маўчаць. Але гэта не адносілася да Пётры Мірановіча. Менавіта ў цяжкія гады вайны ён стварыў вялікую колькасць краявідаў, нацюрмортаў і партрэтаў. Асабліва ўдалымі можна лічыць тыя партрэты, на якіх мастак намаляваў людзей блізкіх сабе па духу і перакананнях. А гэта Кастусь Езавітаў, Сяргей Сахараў, Алесь Салавей, Уладзімір Сядура.

Проста цудоўным атрымаўся партрэт Кастуся Езавітава, аднаго з апосталаў беларускага адраджэння. Адчуваецца, што мастак па-сапраўдным любіць гэтага чалавека, верыць яму. Езавітаў у росквіце гадоў, з высока паднятай галавой, кожная дэталь на партрэце служыць для таго, каб падкрэсліць усю неардынарнасць асобы, яго сілу і моц. Праўда, ёсць адчуванне таго, што мастак крыху ідэалізуе Езавітава, але гэта не шкодзіць, а як раз наадварот, дапамагае гледачу зразумець усю ягоную грамадзянскую і чалавечую веліч. Як мастак рэалістычнай школы, Мірановіч імкнецца да рэальнага падабенства і такому падыходу імкнецца не здраджваць. Да творчага дасягнення мастака трэба аднесці і партрэт Сяргея Сахарава з унукам. На карціне мы бачым сталага чалавека з пасівелымі скронямі і вусамі, які трымае на руках маленькага хлопчыка. Якое суладдзе душ адчуваецца ў гэтым просценькім, на першы погляд, малюнку. Сталасць і мудрасць аднаго суседнічае з наіўнасцю і з чысцінёй другога. Нездарма мастак зрабіў так, што хлопчык глядзіць у вочы гледача. Ён як бы прамаўляе да нас, да нашай душы і чалавечнасці, і ва ўсёй карціне адчуваецца нейкі спакой і надзея.

Летам 1944 года мастак прымаў удзел у Другім Усебеларускім кангрэсе, які праходзіў у Мінску. Вяртаўся назад у Рыгу ў адным цягніку разам з Кастусём Езавітавым і Ларысай Геніюш, пра што апошняя вельмі цікава распавяла ў сваёй "Споведзі". Хутка фронт пачаў набліжацца да межаў Латвіі. Заставацца ў Рызе Мірановіч не жадаў, ведаў, што яго тут чакае, і таму падаўся на эміграцыю.

Жыў у Аўстрыі, дзе адразу пасля вайны стварыў беларускую школу для эмігрантаў і працаваў настаўнікам. У 1946 годзе ў Зальцбургу пачаў выходзіць беларускі літаратурна-гістарычны часопіс "Пагоня". Яго рэдактарам быў Алесь Салавей, а мастаком-афарміцелем Пётр Мірановіч. Гэта быў, мусіць, адзіны са шматлікіх рататарных часопісаў, які з густам і арыгінальна быў аформлены.

Жыццё ў паваеннай Аўстрыі было цяжкае. Не хапала самага неабходнага, да таго ж, як "дамоклаў меч", вісела пагроза прымусовай рэпатрыяцыі. Больш за год мастаку давялося пражыць сярод латышскіх эмігрантаў, бо гэта давала магчымасць выратавацца ад рук усюіснага "Смерша". На хлеб надзённы зарабляў тым, што маляваў партрэты (з фотакартак) для аднаго з агенцтваў. З тае пары адзіным светлым успамінам для мастака засталося тое, што наведваў у Вене акадэмію мастацтваў.

У 1950 годзе Мірановіч выязджае ў ЗША. Пасяліўся ў Брукліне, дзе і пражыў усё астатняе жыццё. Пасля пераезду за акіян давялося вельмі шмат працаваць (па 12 гадзін штодня), каб пракарміць сям'ю, якая складалася з пяці асоб. Але маляваць не пакідаў. Беларусы, расцярушаныя па ўсім свеце, вельмі сумавалі па сваёй Радзіме і таму хацелі, каб вобразы роднага краю заўсёды (хоць і на палатне) былі перад вачыма. Яны пачалі заказваць у мастака карціны на тэму роднай зямлі. Пра Мірановіча, як яркага і непаўторнага творцу, пачала пісаць беларуская замежная прэса. Вось як пісаў пра яго Уладзімір Сядура: "Яны (карціны, аўт.) абуджаюць у кожнага з нас салодкія ўспаміны, стоячы перад імі, мы нібы зноў пераносімся на родныя палі і сенажаці, лясы і вазёры... Гэтак малярская творчасць мастака-эмігранта становіцца фактарам, што спрыяе захаванню нашае культурна-нацыянальнае самабытнасці ў свеце".

Мастак не згубіўся ў шырокім людскім моры, а дасягнуў славы і папулярнасці. Сярод работ эміграцкай пары трэба назваць некалькі, якія сталі гонарам беларускага замежнага выяўленчага мастацтва. А гэта партрэты Льва Сапегі, Кастуся Каліноўскага, Наталлі Арсенневай, Францішка Скарыны (спецыяльна напісаны для бібліятэкі і музея ў Лондане, які носіць імя нашага славутага друкара). Дасканалай завершанасцю, цудоўным адчуваннем колеру, глыбокім пранікненнем у сам вобраз асобы з'яўляецца партрэт, на якім намаляваны Пётра Крэчэўскі, першы прэзідэнт Рады БНР на эміграцыі. На палатне – пажылы чалавек з доўгай прыгожай барадай і вусамі, вочы якога як бы імкнуцца зазірнуць у душу кожнаму з нас, яго нашчадкам. Уся постаць асветлена нейкім ледзь улоўным святлом, якое прасвечваецца з бакоў. І ў гэтым святле адчуваецца аднaчасова і трагізм, і непаўторнасць гэтага чалавека.

А сярод тэматычных работ найбольш важкімі атрымаліся карціны "Беларускія эмігранты" і "Каплічка на могільніку ў Прыдруйску".

Карціна "Беларускія эмігранты" – гэта настальгічны боль і крык душы тых, хто пакінуў Радзіму. На бераг амерыканскай зямлі сышла група людзей. Некаторыя ў нацыянальных строях. Яны разгубленыя і прыгнечаныя. У кожным іх руху відаць страх перад невядомасцю, перад будучыняй. Адной з лепшых работ мастака была "Каплічка на могільніку ў Прыдруйску". Такой дакладнасці ў перадачы на палатне невялічкага абразка беларускага краявіду ў мастака сярод створаных на эміграцыі работ больш няма. Восень. Пажоўклыя дрэвы. І сярод усёй гэтай прыгажосці маленькая, закінутая людзьмі, каплічка. Якая гармонія адчуваецца ў гэтым малюнку, якое спалучэнне часовага і вечнага! І над усім гэтым пануе цішыня. Проста выдатна. Гэта адзін з лепшых твораў эміграцкай пары.

Паступова пачало здаваць здароўе, слаблі вочы, надыходзіла старасць. Але Мірановіч не пераставаў працаваць. Ён сваёй творчасцю імкнуўся суцешыць землякоў, якія па волі лёсу апынуліся далёка ад любай радзімы. Вельмі трапна сказаў пра творчасць мастака беларускі даследчык з Беласточчыны Валянцін Сельвясюк: "Пётра Мірановіч – гэта пясьняр беларускай эміграцыі, яе настальгіі і надзеі".

Мастак неаднойчы ўдзельнічаў у выставах, якія ладзілі нашы суродзічы на чужыне. Так, у 1962 годзе ў Нью-Ёрку Беларускі інстытут навукі і мастацтва наладзіў вялікую выставу працаў Пётры Мірановіча. А ў ліпені-жніўні 1963 года ў беларускім адпачынковым цэнтры Белэйр-Менск была адчынена калектыўная выстава, дзе акрамя Мірановіча выстаўляліся Віктар Жаўняровіч і Мікола Касак. Жыццё ў мастацтве працягвалася...

Памёр Пётра Мірановіч 20 снежня 1990 года і пахаваны на могілках Рэзурэкшан на Статэт Айлендзе. У апошнія гады жыцця мастак часта любіў гаварыць: "Я заўсёды верыў у свой народ..." Але беларускі народ не заўсёды апраўдвае спадзяванні сваіх лепшых сыноў і дачок. І, можа, шчасце мастака ў тым, што ён не дажыў да некаторых падзеяў апошняга часу...

Зямное жыццё мастака закончылася, але яно працягваецца ў яго лепшых работах. Пётра Мірановіч быў і назаўсёды застанецца мастаком беларускай прыроды, людзей і працы. І тым ён цікавы для беларускага і сусветнага мастацтва.

*Міхась КАЗЛОЎСКІ.*

